ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431

| Год. XXX | Нью Ёрк — Лістапад-Сьнежань — 1981 | № 294-295 |
|---|---|---|
| Vol. XXX | New York — November-December — 1981 | № 294-295 |

## ЯНКА КУПАЛА Й "НАША НІВА"

Дзясятага лістапада сёлета споўнілася 75 гадоў ад выхаду ў Вільні другое легальнае й вядучае ў дарэвалюцыйным пэрыядзе беларускае газэты „Наша Ніва". Два апошнія гады выхаду „Нашае Нівы" рэдактарам гэтае штатыднёвае газэты быў Янка Купала. „Наша Ніва" выходзіла ад 1906 году па 1915-ты, калі выхад ейны быў спынены нямецка-расейскім фронтам.

Яшчэ на пятыя ўгодкі выхаду газэты Купала прысьвяціў гэтаму неафіцыйнаму органу Беларускае Сацыялістычнае Грамады верш пад заг. „Нашай Ніве" (верш гэты адзін час выконваўся як беларускі нацыянальны гімн — „Не загаснуць зоркі ў небе"). Янка Купала ў гэтым вершы выказаў гэткае спадзяваньне:

Наша зерне — нашы думкі
Не загінуць сьвету, —
Блісnуць краскай непаблеклай
Вечных агняцьветаў.

Гэтае купалаўскае прадказваньне-пажаданьне тымчасам ня збылося йшчэ. Тыя „зерне-думкі" нашаніўцаў, пакінутыя Купалам і ўсімі, хто супрацоўнічаў у газэце, ляжаць недасьледаванымі, яны ня блiснулі, не прарасьлі ў форме досьледаў-манаграфіяў. На Беларусі сёлета 75-гадовы юбілей „Нашае Нівы" ня быў належна адзначаны, ня стаўся нагодаю, каб прасачыць, якое дачыненьне мелі Купала й Колас да „Нашае Нівы", наколькі кірунак газэты супадаў зь ідэйным кірункам творчасьці гэтых двух песьняроў, наколькі гэтыя два волаты літаратуры ўплылі на ідэйны й палітычны профіль „Нашае Нівы". Пытаньні гэтыя з усёй актуальнасьцяй стаяць сяньня перад намі. Пытаньні гэтыя набываюць асаблівага значаньня на парозе купала-коласаўскага юбілейнага 1982-га году.

Якой была сваім кірункам „Наша Ніва", калі Купала ў сакавіку 1914 году стаўся ейным рэдактарам? Ці адбыліся якія-небудзь зьмены ў газэце з прыходам ў ейную рэдакцыю Янкі Купалы? Наколькі можна ўважаць як купалаўскія, пагляды, выказаныя іншымі супрацоўнікамі-публіцыстамі „Нашае Нівы": Вацлавам Ластоўскім, Антонам Луцкевічам, Мячыславам Баброўічам (якія падпісвалі свае артыкулы псэўдонімам „Лявон Гмырак")?

У першым купалаўскім нумары „Нашае Нівы" (за 7-га сакавіка 1914 г.) Купалавае публіцыстыкі, якой ён тады займаўся, няма. Ёсьць адно верш „Праявы" — пануры абраз трывожнага стану і сярод людзей і ў прыродзе — прадчуваньне недалёкае Першае сусьветнае вайны:

— Што за віхар закруціўся? —
Ў зямлю ўрыўся, ў неба ўзьбіўся,
Бухнуў іскрамі пажару
На сялібы, на папары?..
— Гэта бітва йдзе сусьветна
Між сьвятлом і апраметнай,
А хто ўскрэсьне, а хто ляжа...
Глянь на сонца — сонца скажа!..

Вобраз сонца ў Купалы — і ў панурых і ў бадзёрых вершах — быў элемэнтам ня толькі аптымізму, веры ў сваю праўду, але й наважанасьці дамагчыся гэтае праўды.

Ды ўжо ў другім купалаўскім нумары газэты, падвойным 11-12-м, датаваным 20-м сакавіка 1914 г., зьмешчаная перадавіца пад заг. „Пуцяводная ідэя". Артыкул падпісаны ініцыяламі „а. н-а". За імі лёгка ўгадваецца псэўдонім Антона Луцкевіча — Антона Навіны. Луцкевіч-Навіна быў адным з галоўных публіцыстаў „Нашае Нівы" на працягу ўсяго выхаду газэты. Факт, што Навінаў артыкул зьявіўся адразу-ж па тым, як Купала стаўся рэдактарам „Нашае Нівы", падказвае, што ў Навіны-Луцкевіча й Купалы-Луцэвіча ня было прынцыповых разыходжаньняў у пытаньнях ідэйных ды палітычных. Вось як гэная перадавіца пачыналася:

„Калі першы раз з грудзей Беларуса-мужыка вырваўся кліч: 'Жыве Беларусь!' — у ім зьліліся ўвадно і пачуцьцё свайго нацыянальнага „я", і прабудзіўшаяся сьведамасьць, што ён чалавек, роўны ўсім іншым, і захаванае ў таёмнай глыбіні душы жаданьне волі і зямлі.

„Усе думкі яго былі аб вызваленьні зь нядолі, пагарды людзкой, зь цемнаты. Вызваліўшаяся з адвечных путаў **душа** Беларуса жадала ськінуць путы і зь **цела**.

„Так нарадзіліся поруч і поруч ішлі два гэтыя жаданьні: у беднасьці, у голадзе, холадзе й непамернай працы штодзённай няма месца для вольнай думкі, для свабоднай і радаснай творчаскай працы, што **будзе** новае жыцьцё. Беларус нейкім інстынктам зразумеў гэта, і ў праграмах нашага нацыянальнага адраджэньня нацыянальнае вызваленьне Беларусаў лучылася з самых першых дзён з вызваленьнем эканамічна - сацыяльным. Вось чаму беларускі рух зразу-ж стаўся рухам **дэмакратычным:** ён абыймаў **усё жыцьцё** працоўнага беларускага народу — ва ўсіх яго праявах".

Гэты націск на **дэмакратычнасьць** руху — слова „дэмакратычны" падчырквалася ў перадавіцы, — на абыйманьне „ўсяго жыцьця" — „усё жыцьцё" падчырквалася таксама, — і быў разыходжаньнем паміж Беларускай Сацыялістычнай Грамадой ды бальшавікамі на Беларусі, для якіх патрэбы беларускае нацыянальнае культуры былі маладедамыя дый успрыймаліся імі як варожыя. Бальшавіком тады патрэбная была адно рэвалюцыя й толькі. Гэтымі рознымі гістарычнымі пачаткамі, неразуменьнем бальшавікамі запаветных імкненьняў беларускага народу да адкачаснага адраджэньня душы й цела — **усяго** жыцьця — хіба й тлумачыцца тое, што сяньня савецкая гістарыяграфія гэтак неахвоча займаецца справаю вывучэньня „Нашае Нівы", не зважаючы на тое, што да гэтае газэты меў беспасярэднае дачыненьне Янка Купала.

**Арсень Загорны**

## ФОНД БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

Вестка аб сьмерці Біскупа Часлава Сіповча, які памёр ў Лёндане ў нядзелю 4 кастрычніка, разышлася сумным рэхам па ўсім сьвеце, выклікаючы пачуцьцё страты і жалю сярод ягоных шматлікіх прыяцеляў і знаёмых. Побач з жалем, аднак, у сэрцах усіх, хто меў шчасьце ведаць Уладыку Часлава, ня можа не нарадзіцца пачуцьцё ўдзячнасьці Богу за яго і за ўсё тое, што ямо ўдалося зьдзейсьніць. Асабліва ўдзячнымі павінны быць Беларусы. Уладыку Часлазу прыйшлося правесьці большую частку свайго жыцьця далёка ад Бацькаўшчыны, але гэта ніколькі не аслабіла ягонай гарачай любові да яе і да беларускага народу. Ён імкнуўся ўсімі сіламі, каб Беларусы змаглі заняць належнае ім месца ў Божай сям'і народаў і каб непаўторныя скарбы беларускай культуры сталіся ўсеагульным здабыткам. Вымоўным доказам гэтага зьяўляецца Беларуская бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане, ініцыятарам і закладчыкам якой быў Уладыка Часлаў і для якой ён пасьвяціў шмат працы і сілаў у апошнія дзесяць гадоў свайго жыцьця.

Сяньня Бібліятэка зьяўляецца адзінай свайго роду беларускай навуковай установай з унікальнымі кніжнымі, рукапіснымі і музэйнымі зборамі. За дзесяць гадоў свайго існаваньня зь ейных фондаў мелі нагоду карыстацца больш за 500 студэнтаў і вучоных з розных краін сьвету, у выніку чаго ў заходнім друку паявілася некалькі дзесяткаў прац на беларускія тэмы. Бібліятэка зьяўляецца таксама цэнтрам бібліяграфічнай інфармацыі аб Беларусі. Нездарма ведамы беларускі пісьменьнік Сакрат Яновіч назваў яе „акном нашай культуры на заходні сьвет".

У ліпені 1979 году Бібліятэка была афіцыяльна залегалізаваная, як незалежная навукова-харытатыўная ўстанова (Charitable Trust). Ад таго часу кіраўніцтвва ёю знаходзіцца ў руках адмысловай Бібліятэчнай рады (Board of Trustees), у склад якой уваходзяць прадстаўнікі беларускага каталіцкага і праваслаўнага духавенства і беларускага грамадзтва ў Англіі, а таксама ангельскія вучоныя-славісты, якія працуюць у галіне беларускіх студыяў. Першым старшынём Рады быў Уладыка Часлаў.

Утрыманьне Бібліятэкі зьвязана зь вялікімі коштамі. Каб існаваць і разьвівацца ў сяньняшні дзень ёй трэба прынамся 12 тысячаў ангельскіх фунтаў (каля 25 тысячаў амэрыканскіх даляраў) на год. Бязумоўна, такіх вялікіх патрэб ня могуць задаволіць прынагодныя ахвяры. Найлепшай разьвязкай было-б, каб Бібліятэка мела адпаведныя непарушныя фонды, якія прыносілі-б гадавы даход у вышыні ўспомненай сумы. Гэта забясьпечыла-б ёй будучыню і матар'яльную незалежнасьць. На жаль, такіх фондаў Бібліятэка ня мае і таму стварэньне іх зьяўляецца справай вялікай важнасьці.

У сувязі з гэтым Бібліятэчная рада зьвяртаецца да ўсяго беларускага грамадзтва з заклікам складаць ахвяры на фонд Беларускай бібліятэкі і музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Было-б пажаданым сабраць як найбольшую суму ў кароткім часе, каб сабраны капітал „працаваў" на Бібліятэку, а не разыходзіўся на штодзённыя патрэбы. Такім чынам, „дае двойчы той, хто дае хутка".

Гэта, бязумоўна, не павінна перашкаджаць плянам на далейшую будучыню. Трэба спадзявацца, што Беларусы заўсёды будуць дапамагаць Бібліятэцы ахвярамі і, паколькі ніхто з нас ня вечны, не забудуцца пра яе ў сваіх тэстамэнтах.

Ахвяры трэба слаць на адрыс Бібліятэкі, прычым чэкі павінны быць выстаўленыя не на прозьвішча якой-колечы прыватнай асобы, але на "The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum".

У Злучаных Штатах Амэрыкі ахвяры можна слаць на:

Byelorussian Relief Fund,
Christ the Redeemer Church,
3107 West Fullerton Avenue,
Chicago, Illinois 60647

У падобны спосаб у Канадзе Беларусы могуць слаць ахвяры на:

Byelorussian Charity Fund,
Archdiocese of Toronto,
Chancery Office,
355 Church Street,
Toronto, Ontario M5B 1Z8

У сваім духовым запавеце Ўладыка Часлаў напісаў, што „Бібліятэка імя Францішка Скарыны ёсьць уласнасьцю ўсіх Беларусаў". Сяньня Беларусы маюць нагоду даказаць на справе праўдзівасьць гэтых слоў і адначасна годна ўшанаваць памяць Уладыкі Часлава, бо Бібліятэка зьяўляецца выдатным і трывалым помнікам у гонар ейнага Закладчыка.

Лёндан, 10 лістапада 1981 г.

**а. Аляксандар Надсон,**
Старшыня Бібліятэчнай рады
**Гай дэ Пікарда,**
Сакратар

## СЬВЯТА І... СЬМЕРЦЬ

### Дзесяць год сьвятыні беларускай навукі й культуры

Раніца 4-га кастрычніка 1981 году ўсьміхнулася над Лёнданам, сталіцай Ангельшчыны, у гэтую пару году звычайна захмаранай і дажджлівай, вясёлым сонейкам. У гэтую нядзелю невялікая „Фінчлейская Беларусь", — раён Дому Мар'янаў ды бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны, кіпеў сваім асаблівым уздымам. Надыйшоў дзень вялікага сьвята — дзясятых угодкаў адкрыцьця беларускае культурна-навуковае сьвятыні. Запрошаныя госьці папрыяжджалі зь Нямеччыны, Бэльгіі, Францыі, Гішпаніі, Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады зь беларускай, цяпер акупаванай Польшчай, Беласточчыны. Мясцовыя ўдзельнікі сьвята, значыцца зь Вялікай Брытаніі, найбольшыя лікам. Між іх бачым і колькі нашых памочнікаў ды сяброў з розных ангельскіх унівэрсытэтаў ды іншых інстытуцыяў, сяброў Англа-Беларускага Таварыства — навукоўцаў, што ўжо некалькі гадоў працуюць над рознымі тэмамі беларускай навукі й культуры.



**Біскуп Часлаў Сіповіч (апошні перадсьмяротны здымак) і а. Аляксандар Надсон з наведвальніцамі з Амэрыкі, дочкамі сп-тва Часлава й Юзэфы Найдзюкоў, Ядзяй і Карнэляй**

Асабліва вялікі гэта дзень для пачынальнікаў гэтай выдатнай справы, найперш Біскупа Часлава Сіповіча ды айца Аляксандра Надсана. Пачыналі некалі ад нуля, прасілі на помач і чужых і сваіх. Асновай бібліятэкі сталіся зборы кнігаў у беларускай ды іншых мовах, якія рупліва павялічвалі а. Леў Гарошка й Біскуп Часлаў Сіповіч. І, з Божай помаччу, пасьля доўгай працы й стараньняў, 15-га траўня 1971 году новую бібліятэку й музэй афіцыяльна адчыніў прафэсар Оксфардзкага Ўнівэрсытэту Робэрт Оты, а дабраславіў яе Апостальскі Дэлегат на Вялікую Брытанію, Архібіскуп Домэніко Энрычы.

Бібліятэка атрымала права харытатыўнай інстытуцыі 23-га ліпеня 1979 году й цяпер кіруе ёю Рада Давераных 10-х асобаў, у якую ўваходзяць сьвятары каталіцкія, праваслаўныя, прадстаўнікі беларускай грамады ў Вялікай Брытаніі, а таксама зацікаўленыя беларусаведай брытанскія навукоўцы.

Вось што чытаем пра бібліятэку ў адмыслова выданай да 10-х угодкаў брашуры: „Галоўнае заданьне бібліятэкі — зьбіраць усе матар'ялы, друкаваныя й рукапісныя, што датычаць да Беларусі, каб маглі імі карыстацца ўсе зацікаўленыя ўсімі галінамі беларусаведы. Дзеля гэтай мэты паўстала й праграма інтэнсыўнага набываньня нова-выданых матар'ялаў шляхам закупаў ды выменаў зь іншымі бібліятэкамі. Сяньня бібліятэка атрымлівае практычна ўсе беларускія выданьні, а таксама тыя, што датычаць да Беларусі ды выдаюцца ў Беларускай савецкай рэспубліцы, Польшчы й на Захадзе. Фонды бібліятэкі ўзбагаціліся таксама сыстэматычнымі пошукамі старых выданьняў, якіх няма ўжо ў продажы, а таксама іншымі, што падарылі розныя людзі. Цяпер у бібліятэцы ёсьць больш за дванаццаць тысячаў тамоў і штагоду гэты лік павялічаецца на 300-400. Найбольш кніжак у беларускай мове, але ёсьць таксама значная колькасьць у іншых мовах, асабліва польскай і расейскай."

Далей брашура апісвае розныя ўнікальныя скарбы як у бібліятэцы, так і ў музэі, а між іх Літоўскі Статут з 1588 году (выд. 1594 г.), частка Скарынавай Біблії (1518 г), першыя выданьні твораў Янкі Купалы й Якуба Коласа, рукапісныя беларускія дакуманты 15-18 стагодзьдзяў ды шмат іншага.

### Выстаўка

З нагоды дзесяцігодзьдзя ў галоўнай залі бібліятэкі была наладжаная й выстаўка, а ў ёй на галоўным стале знайшліся якраз найбольш цікавыя й рэдкія кнігі 19-20 ст. На асобным стале наведвальнікі маглі бачыць эміграцыйныя выданьні апошняга дзесяцігодзьдзя, на іншым зноў-жа кніжкі ў ангельскай мове, выданыя на эміграцыі. Асобны стол заняла беларуская Беласточчына, якую рэпрэзэнтавалі сваймі выданымі творамі Алесь Барскі, Ян Чыквін, В. Швед, Надзея Артымовіч, Сакрат Яновіч, Ірына Баравік, Ул. Гайдук, Яша Бурш, Міхась Шаховіч ды праца Юр'я Туронка пра беларускае школьніцтва Беласточчыны ў паваенныя гады. Там-жа былі й выразкі артыкулаў з польскае прэсы пра творы нашых пісьменьнікаў і паэтаў, камплет „Нівы", календары ды іншае. Стол Беласточчыны паказаў, што нашыя творчыя суродзічы і ў няспрыяльнай атмасфэры польскае акупацыі цімала зрабілі для беларускае літаратуры.

### Выстаўка мастака Міхася Наўмовіча

У суседнім зь бібліятэкай доме наладзіў выстаўку сваіх абразоў — акварэляў і алею ды скульптуры — наш ведамы мастак з Парыжу Міхась Наўмовіч. Прынадная, крышку зажураная і глыбока задуманай выйшла гіпсавая галава дзяўчыны, мадэлькай да якой была, як казаў мастак, ягоная дачка. Найбольш заімпаванаваў усім вобраз беларускае вёскі. Зіма. Пад пакрывалам сьнегу, на ўзьлесьсі, дрэмлюць хаты, адрыны й гумны. Дзесьці заходзіць сонца, а стрэхі ў засені, сінявата-шэрыя як нельга лепш застылі ў траскучым марозе. Глядзіш зводдаль і холад цябе бярэ. Мастак казаў, што маляваў гэную малую вёсачку, наглядаючы яе дзесьці ў сваёй роднай ваколіцы. Іншыя вобразы, у якіх скрозь відаць таленавітая рука мастака, для Беларуса — чужына й няшмат прамаўляе да нашага, тужлівага па забраных землях сэрца.

### Дзень малітвы... і разьвітаньня

Сонечная нядзеля 4-га кастрычніка напоўніла царкву ў Доме Мар'янаў. Сьвятую Літургію служыць Уладыка Часлаў Сіповіч і айцец Алесь Надсан.

Сяньня вялікае сьвята ня толькі маленькай „Фінчлейскай Беларусі", але і ўсяго беларускага народу. Гэтыя выгнаньнікі, што пакінулі сваё „раськіданае гнязьдо", гэтта ня толькі самі атаўбаваліся й прыяцеляў у чужым сьвеце здабылі, але й яшчэ сьвятыні навукі пабудавалі. Дзіва няма, што ўрачыста гучаць галасы сьвятароў. Падзяка Богу за дасягнутае. І каб далей памагаў. Каб у будучыні й бацькаўшчыну ад нячыстых вызваліў.

А сп. Гай дэ Пікарда ізь сыпплым хорам, сьпявае старыя беларускія царкоўныя мэлёдыі, якія адшукаў, апрацаваў. Праўда, да хо-

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

## НОВЫЯ МУЗЭЙНЫЯ НАБЫТКІ

Этнаграфічна-музэйны аддзел пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва апошнім часам узбагаціўся шмат якімі цікавымі набыткамі: хатнімі й гаспадарскімі прыладамі вопраткай ды тканінамі ручнога вырабу з розных куткоў Беларусі.

Рэчы набываюцца рознымі спосабамі: купляюцца, абменьваюцца, дастаюцца часта як падарункі й ахвяры ад людзей, якім залежыць, каб рэчы, прывезеныя з дому не загінулі, але былі перахаваныя ды выкарыстаныя. І рэчы гэтыя выкарыстоўваліся ўжо для розных выставаў ды фэстываляў, будуць выкарыстоўвацца ціраз яшчэ, але зьбіраюцца яны з думкай аб заснаваньні беларускага этнаграфічнага музэю.

У форме падзякі гэтта падаём сьпіс ахвярадаўцаў:

**Сп-ня Галя Харавец** — дзяружкі, ручнік, вышываная суkенка з хатняга палатна ды кажух зь Вялейшчыны.

Сп-ня **Юзя Найдзюк** — дзяружка, ручнікі, пояс.

Сп-тва **Ахрымені** — дзяружка.

Сп-ня **Ганна Стукаліч** — вышываньня, вязаныя рэчы свае працы ды старынны ручнік для іконы зь Віцебшчыны.

Сп. **Сяргей Карніловіч** — дзяружка, ручнік кавалак даматканага палатна.

Сп. **Антон Шукелойць** — ручнікі, паясы, намітка, спадніцы, хвартухі.

Сп-ні **Эўдакія Жызьнеўская, Людзьвіка Бяленіс** і **Ірэна Пануцэвіч** — калекцыя беларускіх лялькаў ды вышываная падушачка.

Сп-ня **Апалёнія Савёнак** — вышываныя падвойным сьцёгам дзяружкі й падушкі.

Сп-ня **Надзя Кудасава** — сватаў ручнік.

Сп-ня **Ніна Орса** — ручнік зь мярэжкай.

**Сп-р Аўген Нэстар** — кавалак даматканага палатна.

Сп-р **Аляксандар Лук'янчык** — плецены з лазы кошык.

Сп-ня **Ганна Русак** — ручнік, даматканае палатно ды рэчы, вышываныя сьв. пам. **Зінай Вадэйка.**

Варта тут прыпомніць і раней набытыя рэчы: дзяружкі са Случчыны, Горадзеншчыны, Беласточчыны; ручнікі з Горадзеншчыны, Беласточчыны ды славуты ручнік зь Неглюбкі; спадніца са Случчыны; збанок ды гаршчочкі чорнага дымчатага вырабу з паўдзённай Беларусі ды серп з паўночна-заходняй Беларусі. Бальшыня рэчаў найменш 50-гадовай даўнасьці і ў добрым стане.

Таксама трэба адзначыць і рэчы, робленыя ўжо на эміграцыі ды пэрсанальна набытыя сп-няй **Зорай Кіпель** для пераданьня ў музэй: калекцыя паясоў, плеценых сп-няй **Нінай Зьгірскай;** лялькі, беларускі жаноцкі строй і іншае вышываньне сп-ні **Юлі Андрусышын**; інкрустацыя саломкай сп. **Міколы Шуста**; гусьлі, зробленыя сп. **Алегам Махнюком**; абразкі, выпаленыя на дрэве, зь Беласточчыны ды інш.

Інстытут перахоўвае й беларускія касьцюмы, праектаваныя й маляваныя мастачкай **Тамарай Кольбай,** якія пашылі сп-ні **Ліза Літаровіч, Ніна Сільвановіч, Жэня Цярніцкая**, **Марыя Стагановіч**, **Марыя Міцкевіч**, **Лена Войтэнка**, **Аліна Лысюк, Гэля** й **Стэпка Каранеўскія, Соня** й **Пётра Драздоўскія, Уладзімер Русак**, **Валя Рагалевіч**, **Юрка Дашкевіч** ды **Кастусь Верабей.**

## „ГОЛАС РАДЗІМЫ" ПРА М. КУКАБАКУ

Неафіцыйны орган савецкага Камітэту Дзяржаўнае Бясьпекі газэта „Голас Радзімы" зьмясьціла вялікаваты артыкул Яўгена Шэўчыка „Выпакутаваны ідал (Пра Міхаіла Кукабаку і яго 'хросных бацькоў')" у нумары 42-м за 22 кастрычніка сёлета. Артыкул, зразумела, поўны хлусьні пра Кукабаку, белымі ніткамі шытае, каб выпраўдаць засуджэньне яго за выказваныя ім перакананьні („нават у судзе, — піша Шэўчык пра Кукабаку, — ён спрабаваў зьняславіць наш народ, ачарніць нашу дзяржаву . . ."; бедная савецкая дзяржава!). Шэўчыкаў артыкул канчаецца словамі: „Вось пра гэтага чалавека за акіянам шумяць, крычаць, пішуць. Якжа палітычны сьцяг! Зьбіраюць нават зборышчы". І г.д.

Ці ня зьмешчаны Шэўчыкаў артыкул у „эміграцкім" „Голасе Радзімы", каб ачарніць М. Кукабаку ўваччу эміграцыі ды гэтым падкасіць ягоныя шанцы ўладзіцца жыць на Захадзе, калі-б дайшло да таго, што яго выпусьцілі з Савецкага Саюзу, як ён гэтага дамагаецца.

Усе рэчы дакладна запісваюцца, каталягуюцца ды старанна перахоўваюцца. Этнаграфічна-музэйны аддзел БІНІМ'у зьвяртаецца да ўсіх суродзічаў з заклікам берагчы рэчы, прывезеныя з дому, мецъ улік іх ды, пажадана, перадаваць на перахаваньне ці ў ахвяру Інстытуту.

Па інфармацыю зьвяртацца да сп-ні Зоры Кіпель:

Zora Kipel
230 Springfield Ave.
Rutherford, N. J. 07070
Tel. (201) 933-6807

## ПАДЗЯКА „ВАСІЛЬКУ"

Дырэктар аддзелу турызму штату Нью Джэрзі сп. Стывэн Рычэр ды кіраўнічкі сэкцыі рэклямы гэтага аддзелу сп-ні Лінда Фэдэрычы й Сэнды Кэлер, а таксама старшыня Этнічнае Рады штату др. Вітаўт Кіпель дзякуюць праз газэту „Беларус" танцавальнаму гуртку „Васілёк" за дапамогу ў арганізаваньні й правядзеньні Фэстывалю ў Лібэрты Парку 12-13 верасьня сёлета. Асаблівая падзяка належыцца сяброўкам Галіне Бахар і Наце Русак за правядзеньне рэклямы фэстывалю ў супрацоўніцтве з агенцтвам Кэйсо Мартын. Беларуская група „Васілёк" была выбраная гэтым агенцтвам для рэклямы, як адна зь лепшых і ведамых у штаце Нью Джэрзі ды ваколіцах Нью Ёрку. Фатаздымкі беларускіх дзяўчатаў былі зьмешчаныя ўва ўсіх большых штадзённых газэтах штату Нью Джэрзі ды спрычыніліся да выдатнае ўдачы фэстывалю й пашырэньня беларускага імя.

**Др. Вітаўт Кіпель дзякуе Галіне Бахар і Наце Русак за выдатную й ахвярную працу ў рэклямаваньні этнічнага фэстывалю ды ўдзелу ў ім Беларусаў зь Нью Джэрзі й Нью Ёрку.**

## ПРА „НАШУ НІВУ"

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку др. Вітаўт Кіпель прачытаў 28 лістапада сёлета рэфэрат пра газэту „Наша Ніва", што выходзіла ў Вільні ў 1906-1915 гадох, ды беларускую эміграцыю ў Амэрыцы тае пары. Прэлегент, грунтоўна азнаёміўшыся з матар'яламі газэты, паказаў, якім шырокім люстрам беларускага жыцьця тых гадоў была „Наша Ніва" ды якая багатая зь яе сяньня крыніца матар'ялаў да вывучэньня аднаго з найцікавейшых пэрыядаў гісторыі Беларусі й Беларусаў. „Наша Ніва" сказаў др. Кіпель, ня тольκі адыграла вызначальную ролю ў станаўленьні беларускага нацыянальнага адраджэньня, стаўшыся цэнтральным органам і каталізатарам беларускае літаратуры, але шырака асьвятляла інтэнсыўны тады выезд Беларусаў у Амэрыку. Газэта мела сваіх дапішчыкаў у Новым Сьвеце якія знаёмілі чытачоў зь нялёгкімі тады праблемамі перасяленцаў зь Беларусі.

„Наша Ніва", уплыў якое на ход гісторыі Беларусі быў эпохатворны, сказаў дакладчык, у савецкай Беларусі ня вывучаецца або насьвятляецца ў вельмі тэндэнцыйным сьвятле. Вывучэньне гэтае крыніцы беларускае мінуўшчыны будзе весьціся ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва далей. Газэта „Беларус" спадзяецца пазнаёміць сваіх чытачоў зь некаторымі вынікамі гэтае важнае працы.

## ДА 60-ГОДЗЬДЗЯ ВЯЛІКАГА ГОЛАДУ Ў САВЕЦКІМ САЮЗЕ

(Пераноc з 2-ой бач.)

цаваньню пазыцыяў імпэрыялізму ЗША ў Эўропе". У Вялікай Энцыкляпэдыі 1970 г. выданьня, у сувязі з адпружаньнем, якое наступіла ў савецка-амэрыканскіх дачыненьнях, крытыка супраць АРА крыху памякчэла, але ў васноўным погляды на яе не зьмяніліся, і гэта не зважаючы на тое, што Амэрыканская Адміністрацыя Дапамогі ўратавала ад голаду мільёны людзей, у тым ліку мільёны савецкіх грамадзянаў!

Беларуская Савецкая Энцыклярпэдыя чамусьці не прысьвяціла АРА ані аднаго радка, але беларуская савецкая прэса ў паклёпах на гэтую арганізацыю і ў выкрыўляньні гістарычных фактаў, зьвязаных зь ейнай дзейнасьцяй, брала актыўны ўдзел. Гэтак, у цытаваным намі ўжо артыкуле менскае „Зьвязды" пра дзейнасьць АРА на Беларусі казалася: „Заядлымі шпіёнамі ў Беларусі зьяўляліся ўпаўнаважаныя АРА ў Менскім раёне Чарльз М. Вілобі і сябры АРА С. Сміт і Франк Вілі. Яны займаліся шпіянажам, а таксама цёмнымі спэкулятыўнымі зьдзелкамі. Гэтыя жулікі і прайдзісьветы нажываліся на цяжкім становішчы беларускага народу, пастаўляючы ў Беларусь нізкаякасныя матар'ялы. Яны збывалі заляжалыя тавары, якія прывозіліся з ЗША, або сабраныя з рэштках ваеннага інтэнданцтва, і грабілі наш народ, нажываюць вялізарныя капіталы. . .". „Пад шырмай аказаньня 'дапамогі' беларускаму народу АРА і іншыя амэрыканскія місіі, якія наваднілі ў 1919 г. Беларусь, разьяжджалі па гарадох нашай краіны — Менску, Бабруйску, Горадні і іншых — і праводзілі сваю разьведчую шпіёнскую работу. . ."

**Ці запраўды было гэтак?**

Ці запраўды прадстаўнікі АРА ў Беларусі „нажываліся на цяжкім становішчы беларускага народу" і грабілі яго? На гэтыя пытаньні дала адказ у сваёй дыплёмнай працы, а цяпер у дасьледваньні, выдрукаваным у 16-ым нумары „Запісаў", Алеся Кіпель. Але ў імя праўды зьвернемся і мы да гістарычных крыніцаў.

Перад намі кніга ў ангельскай мове пад загалоўкам „Голад у Савецкай Расеі". Праца гэтая, абапёртая на архіўных матар'ялах АРА, напісаная гісторыкам Фішэрам у 1927 г. У ёй аўтар апісвае гісторыю амэрыканскай дапамогі Савецкаму Саюзу ў часе згаданага вялікага голаду 1921-22 гадоў. Колькі старонак Фішэр прысьвяціў і дзейнасьці АРА на тэрыторыі Беларусі.

Першыя кухні з гарачай ежай АРА зьявіліся ў акупаваных Палякамі раёнах заходняй Беларусі ў 1919 годзе. Галодныя, абадраныя і стомленыя беларускія дзеткі, а часамі цэлыя сем'і, шукалі ў асяродках АРА цёплае стравы і адзежыны. „Калі былі дзесьці ў сьвеце людзі, якія патрабавалі запраўды дапамогі ад АРА, дык гэта на г. зв. „Усходніх Крэсах" — пісалі ў сваіх справаздачах зь Беларусі прадстаўнікі АРА.

На жаль, польска-савецкая вайна 1920-1921 гг., сталыя наступы й адступленьні недысцыплінаваных арміяў змусілі АРА пакінуць тэрыторыю Беларусі ды перанесьціся ў цэнтральную Польшчу. Толькі пасьля падпісаньня Рыскае ўмовы ў сакавіку 1921 г. маглі працягваць сваю гуманітарную дзейнасьць сябры АРА на захад ад савецка-польскай мяжы.

**На Беларусі голад быў!**

Зусім інакш прадстаўлялася справа ў савецкай Беларусі. Пасьля закліку Максіма Горкага аб дапамозе, паміж урадам савецкай Расеі і АРА была падпісаная ў сталіцы Лацьвіі адмысловая ўмова аб дапамозе галадаючым. Умова гэтая, як пасьля выявілася, не забавязвала аднак ані Беларускую ані Украінскую ССР. Цэнтральны ўрад у Маскве ўвесь час супраціўляўся ўсялякай дапамозе АРА Беларусі. Ён навет не дазваляў дзейнасьці Супольнага Амэрыканскага Жыдоўскага Камітэту, які займаўся разьмеркаваньнем харчовых пасылак сярод жыдоўскага і нежыдоўскага жыхарства беларускіх гарадоў. Сваё адмоўнае становішча савецкі ўрад матываваў тым, што, маўляў, на Беларусі ня было голаду. Што гэта няпраўда, сьветчаць архіўныя матар'ялы АРА, якія, як выглядае, належна выкарыстала ў сваіх дасьледваньнях Алеся Кіпель, а таксама наш вялікі пясьняр Янка Купала, які адразу адгукнуўся вершам „Голад" у канцы верасьня 1921 году, у якім пісаў:

Праз поле, праз хаты і сёлы,
Ў кароне з касьцей чалавечых,
Іду, разбуялы, вясёлы,
З хатомкай мярцьвячай на
плечах.

Паклоны б'е стар мне і молад
І дзетак рой босых і голых, —
Бо Голад я, Голад!

**Ваенныя зьнішчэньні.**

Як правільна адзначае Фішэр, беларускія землі пацярпелі менш ад засухі, але затое яны панесьлі вялізарныя матар'яльныя страты ў часе ваенных дзеяньняў, якія на працягу доўгіх гадоў праходзілі на Беларусі. Спачатку нямецка-расейская вайна, далей савецкая акупацыя зь ейнымі недарэчнымі экспэрымэнтамі ў сельскай гаспадарцы, пасьля зноў вайна з Польшчай. . . — усё гэта ператварыла і да гэтага бедную Беларусь у галодную і агалечаную краіну.

Калі ў студзені 1922 году прадстаўнікі АРА прыбылі ў Менск, яны пабачылі, што мясцовыя ўлады ня ведалі нічога канкрэтнага пра Рыскую ўмову аб дапамозе між АРА і савецкай Расеяй. Стаяўшы на прынцыпе незалежнасьці БССР, яны адмаўляліся прызнаць гэную ўмову (у той час гэта было яшчэ магчыма!), цьвердзячы, што „ўмова з РСФСР ні ў чым не забавязвае Беларускую ССР". Здаровы розум перамог аднак хутка і АРА магла пачаць сваю дзейнасьць без таго, каб укладаць адмысловую ўмову.

**АРА на Беларусі.**

Першыя месяцы ў Менску, Віцебску й Гомелі — піша далей Фішэр — былі вельмі цяжкімі, поўныя расчараваньня для Амэрыканцаў. Савецкія ўрадаўцы ставіліся калі ўжо не варожа, дык проста абыякава да дзейнасьці АРА і не хацелі памагчы навет у такіх асноўных пытаньнях як забясьпечаньне складамі, канторамі ды памешканьнямі для начлегу. Вялікая праблема паўстала таксама з падабраньнем належнага пэрсаналу, а гэта з тае прычыны, што ўсім тым, хто супрацоўнічаў з АРА, пагражаў арышт і навет расстрэл.

Ня зважаючы аднак на ўсе гэтыя цяжкасьці на перашкоды з боку партыйных уладаў, тысячы беларускіх і жыдоўскіх дзяцей і дарослых штадзённа, на працягу цэлага году, дасталі цёплую страву, вопратку, мэдычную дапамогу і прытулак АРА. Таму прадстаўляць самаахвярную й бескарысьлівую дапамогу гэтай гуманітарнай арганізацыі, як спробу замацаваць пазыцыі імпэрыялізму ЗША або як шпіёнска-разьведчую дзейнасьць — гэта нічога іншага як хлусьня й цынізм. А поўнае прамоўчваньне яе, як гэта зрабіла Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя, — гэта бязглуздая няўдзячнасьць і тэндэнцыйнае стаўленьне да гістарычных фактаў.

У сьвятле усяго толькі што сказанага пра дзейнасьць АРА на Беларусі, дасьледваньне гэтага пытаньня Алесяй Кіпель набірае яшчэ большага значаньня ды заслугоўвае на шырэйшую ўвагу з боку нашага грамадзтва.

**В. Сянькевіч**

## НОВАЯ УПРАВА БЦК У ВІКТОРЫІ

У нядзелю 18 кастрычніка сёлета адбыўся ў Беларускім Доме ў Мэльбурне (Аўстралія) агульны справаздачна-перавыбарны сход Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі. Дзеля таго, што аб працы Камітэту ня было ад даўжэйшага часу інфармацыі ў беларускім друку, варта спыніцца над справаздачай старшыні ўправы Камітэту сп. У. Сідлярэвіча.

Кадэнцыя старой управы, згодна із статутам, трывала тры гады. У гэтым часе актыўнасьць управы праяўлялася ў шмат якіх кірунках. Штагоду ладзіліся сьвяткаваньні нашых нацыянальных угодкаў з добра апрацаванымі рэфэратамі й мастацкай часткай, адбываліся традыцыйныя ўжо сяброўскія спатканьні-вечары. Трэба асабліва адзначыць вечар, прысьвечаны творчасьці сьв. пам. Алеся Салаўя ды рэфэрат д-ра Я. Малецкага „Агрэсія Савецкага Саюзу ў Афганістане".

Вялікую актыўнасьць праявіла ўправа БЦК у вонкавых сувязах — у супрацоўніцтве зь міжнацыянальнымі арганізацыямі. Беларускі Нацыянальны Камітэт належыць да Рады Паняволеных Народаў і рэпрэзэнтаваў Беларусаў ува ўсіх мерапрыёмствах гэтае арганізацыі, асабліва — у адзначаньні штагоду Тыдня Паняволеных Народаў у месяцы ліпені.

БЦК належыць таксама да Аўстралійскай Нацыянальнай Этнічнай Рады, заданьнем якое — дапамога эмігрантам у інтэграцыі, матар'яльная дапамога школам, дапамога пэньсіянерам ды іншае. Як зусім слушна зазначыў сп. Сідлярэвіч, належаньне БЦК да згаданых міжнацыянальных арганізацыяў зьвязанае зь фінансавымі выдаткамі (сяброўскія складкі) ды з працай прадстаўніка БЦК, якому беларускае грамадзтва, на вялікі жаль, не заўсёды дае патрэбнае падтрыманьне й помач.

Управа БЦК разам з управамі Беларускага Дому й Жаноцкага Згуртаваньня склікала супольна з Фэдэральнай Радай ды правяла ў Мэльбурне 27-29 сьнежня летась IV-ю Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі. Пры гэтай нагодзе трэба адзначыць, што БЦК быў ініцыятарам наагул ладжаньня сустрэчаў Беларусаў, і першая сустрэча была наладжаная Камітэтам у Мэльбурне. Трэба згадзіцца із старшынём уступаючае ўправы, што IV-я Сустрэча Беларусаў Аўстраліі была найбольшым нашым дасягненьнем, сустрэча гэтая аб'яднала да творчай працы дванаццаць беларускіх арганізацыяў у вадну Фэдэральную Раду Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, зьліквідаваўшы гэтым шкодны дуалізм, што існаваў да таго часу.

Апошняя сустрэча была зьвязаная зь вялікімі грашовымі выдаткамі, якія аднак былі пакрытыя з падпісных лістоў лятарэі. Прысьвечаная гэтая сустрэча была 450-м угодкам Статуту Вялікага Княства Літоўскага.

Я ня буду пералічаць усіх дасягненьняў уступаючай управы — гэта заняло-б шмат месца. БЦК існуе ўжо блізу 20 гадоў і апошні справаздачна-перавыбарны сход быў адным з найлепшых, на якім можна было пахваліцца шмат чым.

Былі, зусім зразумела, і недахопы, часта незалежныя ад управы. Было балюча, што мы дасюль не змаглі арганізаваць танцавальнага гуртка, наладзіць ізноў беларускія радыяперадачы. На прапанову рэвізійнае камісіі, уступаючай управе было прызнанае абсалюторыюм з заслужанай падзякай. У новую ўправу увайшлі: сп. сп. Ул. Сідлярэвіч, М. Скабей, П. Гуз, М. Шэка і Г. Шэйпак.

На паседжаньні ўправы 24 кастрычніка адбыўся падзел функцыяў: сп. Сідлярэвіч застаўся старшынём, сп. Скабей — сакратаром і заступнікам старшыні, сп. Гуз — скарбнікам, сп. Шэка — вонкавыя сувязі. Новая ўправа дакааптавала сп. М. Нікана для вонкавых сувязяў (супольна із сп. Шэкам) ды сп. А. Калодку як культурна-асьветнага рэфэрэнта.

**А. К-а**

# „АСТРАВЫ НА ДАЛЁКІХ АЗЁРАХ"

У шостым сёлетным нумары часапісу „Маладосьць" выдрукаваная аповесьць В. Гігевіча „Астравы на далёкіх азёрах". Васіль Гігевіч (нарадж. у 1947 г.) — адзін з таленавітых беларускіх празаікаў, аўтар кніжак прозы „Сьпелыя яблыкі", „Калі ласка, скажы", „Жывіца". Гігевіч у вялікай меры пісьменьнік праблемны. Якія-ж праблемы ўздымае ён у сваёй новай аповесьці „Астравы на далёкіх азёрах"? Каротка аб зьмесьце. Большая частка дзеі ў ваповесьці адбываецца на абтоку куды прыехалі адпачываць навукоўцы Валера, Маркін, пісьменьнік Пётр Хведаравіч, інжынер Малецкі з жонкай, кіназорка, рабочы Сідарэвіч ды іншыя пэрсанажы.

Амаль кажны з гэрояў аповесьці хацеў вырвацца з гораду, каб забыцца на ўлоньні прыроды пра сваю працу, пра штодзённыя турботы: пісьменьнік хацеў дапісаць раман, інжынер Малецкі спадзяваўся здабыць назад вернасьць сваёй жонкі, якая даўно яму здраджвала, рабочы Сідарэвіч хацеў разабрацца ў тым, што ў жыцьці — галоўнае.

Але Васіль Гігевіч па-свойму распараджаецца адпачынкам сваіх гэрояў. Амаль кажнага зь іх аўтар змушае адказаць самому сабе на пытаньне: „Ад чаго, чаму ён так стаміўся ў жыцьці?" Тым самым аўтар змушае пэрсанажаў заняцца аналізам сваіх паглядаў і ўчынкаў. Абток стаўся як-бы месцам самааналізу, ацэнкі пражытага.

Нічога не зьмянілася за час адпачынку. Ніводзін пэрсанаж ня ўжыцьцёвіў сваіх плянаў, якія рабіў на час адпачынку.

Гігевіч, фактычна, ня поўнасьцяй раскрывае характары сваіх гэрояў, ня піша пра ўсе дэталі. Ён вылучае толькі самае характэрнае, прынцыпова важнае.

З тых кароткіх спрэчак, дыскусіяў, дыялогаў, якія адбываюцца ў аповесьці, чытачу стаецца зразумелым, чым і як жыве былы вясковец у сучасным беларускім горадзе. Чаму менавіта былы вясковец? А таму, што галоўныя гэроі аповесьці „Астравы на далёкіх азёрах" нарадзіліся ў вёсцы, гэта — гараджане першага пакаленьня, якімі ў вялікай меры заселеныя цяпер гарады Беларусі. Дык вось аўтара і цікавяць гэтыя былыя вяскоўцы: як яны маюцца ў горадзе, якія іхныя маральныя вартасьці ды які ўплыў на іх робіць горад і гэтак званая навукова-тэхнічная рэвалюцыя — НТР? У якой ступені НТР уплывае на захоўваньне спадчыны, родных вытокаў? Вось пытаньні, што стаяць у цэнтры аповесьці, як стаяць яны наагул у цэлай творчасьці Васіля Гігевіча.

Рабочы Сідарэвіч усё сваё жыцьцё працаваў на заводзе, жыў у васяродзьдзі гэтак званага тэхнічнага прагрэсу. Які-ж уплыў зрабіла НТР на ягоны характар? Бязумоўна, зрабіла — гэта перш-наперш расейскія словы ў ягоным лексыконе, якія ён вымаўляе на беларускі манер, пэўная зьбянтэжанасьць у ваблічы складанасьці гарадзкога жыцьця ды адчуваньне нейкае безвыходнасьці. Але галоўнае ў ягоным характары — вера ў родную зямлю, у бацькоў, што навучылі яго свае гаворкі, навучылі свае радасьці й сваіх бедаў — засталося. Ані вайна, ані горад, ані аўтаматызацыя ня вырвалі зь яго гэтай веры.

Калі Сідарэвіч, дажыўшы да пэнсыйнага веку, пачаў успамінаць сваё жыцьцё, дык яму, апрача маленства, родных мясьцінаў, нічога добрага і ня ўспомнілася. Адзінае, што Сідарэвіча трымала ў жыцьці — гэта спадчына. „Дзеля чаго я так біўся ўсё жыцьцё?" — пытаецца сам у сябе Сідарэвіч. І адказвае: „Дзеля спадчыны".

Супрацьлежны Сідарэвічу ў ваповесьці „Астравы на далёкіх азёрах" выступае вобраз Валеры. Валера — малады навуковец. Ён параўнальна нядаўна вырваўся зь вёскі, мае вышэйшую асьвету. Ад мінулага, ад родных каранёў Валера адмовіўся, а новага грунту не знайшоў. Жыве, фактычна, у духовай пусьціні, прыкрываецца дэвізам НТР. „Цяпер — кажа Валера — другі час, другія паняцьці, другі рытм мысленьня, цяпер другі жыве чалавек". Валера падмануў маладую дзяўчыну, пераспаў зь ёю і пакінуў яе. Вось ягоная мараль.

Гігевіч ставіць пытаньне: чаму на рахунак НТР сьпісваецца хлусьня, здрада, падман, подласьць? — як гэта робяць Валера й Лена, жонка інжынера Малецкага, здраджваючы мужу? Ці вінаватая НТР за ўчынкі падобныя да ўчынкаў Валеры й Лены? Ці не хаваецца прычына, апрача гэтага, у нечым іншым, а ня толькі ў гарадзкіх рытмах жыцьця, спрычыненых НТР? „Не, ня ў НТР рэч, — разважае інжынер Малецкі, — ня ў НТР прычына, што чалавек сьпіўся або згуляўся. На фармаваньне асобы, — мяркуе Малецкі, — ейных маральных вартасьцяў уплывае мноства фактараў".

Што да самога аўтара аповесьці — як-жа ён глядзіць на ўсё гэта? — дык Гігевіч сьхільны баржджэй меркаваць, што доля чалавека залежыць ад яго самога, гэтак-жа, як залежала ад рабочага Сідарэвіча тое, што ён ня выракся свае спадчыны.

Другое пытаньне, якое ставіць аўтар аповесьці „Астравы на далёкіх азёрах" — і Гігевіч, можа, ставіць яго першы — гэта, ці перашкаджае НТР разьвіцьцю нацыянальнага характару, нацыянальнай культуры?

Гігевіч спрабуе даць адказ на гэтае пытаньне вобразам рабочага Сідарэвіча й алегарычным вобразам ягонае хаты. Да гэтае хаты, якую, як кажа Сідарэвіч, „так цяжка было складаць і якую, аказалася, вельмі лёгка й хутка можна разбурыць", аднойчы — перасьцярагае ён — прыйдуць людзі ў капелюшох і скажуць, махаючы рукамі: „Вось тут, дзе сьцены, будзе новая прамая дарога, а вунь там, дзе сад з агародам, мы пабудуем новую вуліцу з цаглянымі шматпавярховымі дамамі. І ў вадным доме мы дадзім вам кватэру з балконам." І наўрад хто зь іх падумае, кажа сам сабе Сідарэвіч, — што хата — гэта ня проста хата, гэта памяць, памяць пра Марыю, пра яе ціхія для сябе песьні, пра той утульны сьвет, які яна панесла з сабою...

Для рабочага Сідарэвіча (і, трэба думаць, для аўтара аповесьці), як ён кажа, „хата — гэта ня проста хата, гэта памяць".

Але НТР, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, ейныя „людзі ў капялюшох" становяць пагрозу існаваньню „хаты-памяці". І ў гэтым — Гігевічаў адказ на пытаньне, ці спрыяе НТР на дадзеным этапе разьвіцьцю беларускае нацыянальнае культуры.

**Алесь Васілеўскі**

## МУЗЫКА Ў „ПАЛІТЫЧНА НЕДАСЬПЕЛЫХ" РУКАХ

Газэта „Чыкага Трыбюн" за 1-га лістапада сёлета зьмясьціла артыкул свайго маскоўскага карэспандэнта Дж. Галагера пад заг. „Саветы вінавацяць цьвярдую музыку-рок за тое, што моладзь 'мяккая'". У артыкуле ход пра ўстурбаванасьць савецкіх уладаў з тае прычыны, што моладзь захапляецца заходняй музыкай. Карэспандэнт падае прыклады крытычнае афіцыйнае рэакцыі на выступленьні інструмэнтальна-вакальных ансамбляў. У Лацьвіі, прыкладам, кіраўнік кампартыі рэспублікі заявіў, што ансамблі гэтыя „ствараюць нездаровую атмасфэру". У Казахстане — гэткі-ж начальнік выступіў з падобнай заявай. А ў Беларусі, піша Дж. Галагер, „галава камсамолу прызнаўся, што некаторыя дыскатэкі рэспублікі „трапілі спад нашага ўплыву ў рукі палітычна недасьпелых і нясумленных людзей".

Можа гэтым афіцыйным наступам на заходнюю музыку тлумачыцца таксама й тое, што пра беларускіх „Песьняроў" цяпер у беларускім савецкім друку — ані слаўца.

## НА ЎГОДКАХ ВУГОРСКАЕ РЭВАЛЮЦЫІ

У Лёс Анджэлесе 18 кастрычніка былі адзначаныя 25-я ўгодкі Вугорскае рэвалюцыі. Сьвяткаваньне адбылося ў Парку імя Мэк Артура, наладжанае Фэдэрацыяй Вугорскіх Змагароў за Свабоду. У сьвяткаваньні, зь іншымі нацыянальнасьцямі, узялі ўдзел із сваім нацыянальным сьцягам і Беларусы. У ваднэй з прынятых рэзалюцыяў — рэзалюцыі Арганізацыі Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеных Народаў, прачытанай ейным старшынём др. Альгердам Клейнатам, згаданая й беларуская грамада, як адна з тых, што салідарызуюцца з вугорскімі змагарамі за свабоду. **Н.**

# ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БАЗА

**На нарадзе ў Вашынгтоне**

Рэфэрэнтка вонкавых дачыненьняў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Раіса Станкевіч 15 верасьня сёлета ўзяла ўдзел у абедзе й нарадзе Нацыянальнае Канфэдэрацыі Амэрыканскіх Этнічных Групаў на запросіны гэтае арганізацыі. Абед адбыўся ў Вашынгтоне ў памешканьні Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША, і ладзіўся ён дзеля ўшанаваньня заслугаў сэнатара Джона Гайнца й кангрэсмэна Джозэфа М. Гайдаса, абодвы із штату Пэнсыльванія. Па абедзе была праведзеная нарада, на якой быў абмеркаваны й прыняты плян працы на будучыню.

**Між Славянамі**

Сёлета ў кастрычніку Славянска-Амэрыканскае Нацыянальнае Задзіночаньне ў Вашынгтоне правяло перавыбары Рады Дырэктароў і Выканальнага Камітэту. Сп-чна Раіса Станкевіч была перавыбраная ў Раду Дырэктароў на наступны двухгадовы пэрыяд.

**На ўгодках Вугорскае Рэвалюцыі**

Вугорская грамада ў Нью Ёрку адзначала сёлета 25-я ўгодкі Вугорскага Паўстаньня 1956 году банкетам у залі славутага гатэлю Ўолдорф Асторыя. Прадстаўнікамі ад Беларусаў на банкеце былі старшыня галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелойць і рэфэрэнтка вонкавых дачыненьняў БАЗА сп-чна Раіса Станкевіч. У часе ўрачыстасьці былі публічна прадстаўленыя ўсе запрошаныя госьці, у тым ліку й прадстаўнікі БАЗА.

Сп. Горст Уліх, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, у сваёй прамове, гаворачы пра змаганьне народаў за сваё вызваленьне, спыніўся і на беларускім народзе, як на ахвяры расейскага камуністычнага народагубства.

# ЗЬ ІТАЛІІ ПРА „ПЕСЬНЯРОЎ"

Савецкая расейская газэта для эміграцыі „Голос Родины", орган „Савецкага таварыства для культурных сувязяў з суайчыньнікамі за рубяжом", у сёлетнім 31-м нумары пісала пра адну просьбу да рэдакцыі газэты зь Італіі, што мела дачыненьне да ведамага беларускага ансамблю „Песьняры". Дарэчы, пра „Песьняроў" у беларускім савецкім друку ўжо каля году як абсалютна нічога ня пісалася, усяроўна як яны трапілі ў нейкую няласку.

Рэдактар „Голоса Родины" ў рубрыцы „Дзёньнік рэдактара" піша:

„Раскажу пра яшчэ адну просьбу — яна ад нашага маладога чытача Валодзі Сабатыні", і далей ідзе даўжэйшая цытата з Валодзевага ліста:

„Пішa вам за мяне мая мама, бо я, нажаль ня ўмею тымчасам пісаць парасейску. Мяне завуць Уладзімер. Мне 11 гадоў. Я нарадзіўся ў Маскве, а жыву ў італьянскім горадзе Балёны. Мая мама — Расейка, а тата — Італьянец. Я вельмі люблю савецкія сучасныя песьні, а таксама народную музыку. Мая расейская бабуля купляе мне савецкія кружэлкі, такім чынам я пазнаёміўся з ансамблем ‚Песьняры'. Калі я ўпяршыню пачуў песьні ў выкананьні артыстых гэтага ансамблю, я закахаўся ў іх. Асабліва мне падабаецца, як ‚Песьняры' выконваюць беларускія народныя песьні. Мая мама слухаючы іх, плача.

„Дарагая рэдакцыя! У мяне да вас вялікая просьба: вельмі прашу вас, напішэце пра гэты ансамбль. І, калі магчыма прышлеце мне, калі ласка, фатаграфію артыстых зь іхнымі аўтографамі. Загадзя дзякую вам. Уладзімер".

Рэдактар „Голоса Родины"- далей піша:

‚Да гэтага ліста мы паставіліся з асаблівай увагай — ён-жа ад дзіцяці! Карэспандэнт ‚Голоса Родины', быўшы з рэдакцыйнымі справамі ў Менску, сустрэўся зь ‚Песьнярамі' ды з кампазытарам, які піша музыку для гэтага ансамблю, — Ігарам Лучанком. І неўзабаве на адрыс маленькага расейскага Італьянца пайшла бандэроль — буклет з аўтографамі ‚Песьняроў' і вось гэткім надпісам: ‚Рускаму хлопчыку, што жыве ў Італіі, Валодзю Сабатыні ‚Песьняры' пасылаюць сардэчнае прывітаньне ды жадаюць заўсёды быць верным другам нашае Савецкае Радзімы'. А рэдакцыя адказала Валодзю, што газэта раскажа пра артыстых ансамблю які так спадабаўся яму й ягонай маме".

Цікава будзе паглядзець, калі й што зьявіцца ў „Голосе Родины" пра „Песьняроў", бо ў менскім „Голасе Радзімы", як і ў рэспубліканскім друку, дзе пра іх раней часта пісалі, даўно нічога ня было.

# КАНДЫДАТУРА М. МАНЦЫВОДЫ

Упяршыню ў гісторыі беларускае грамады ў Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі, прадстаўнік гэтае грамады, 23-гадовы сын сп-тва Мікалая й Пэлагеі Манцыводаў, Мікола Манцывода выставіў сваю кандыдатуру ад Рэспубліканскае партыі ў выбарах на становішча сябры гарадзкое рады (каўнсылмэн). М. Манцывода-малодшы — парахвіянін Беларускае Праваслаўнае царквы ймя Еўфрасіньні Полацкай, у 1980 годзе скончыў Трэнтанскі штатавы каледж, працуе ў бухгальтэрыі фірмы Гэркулес ды вучыцца далей у Райдэрскім каледжы.

Кандыдатура сп. М. Манцыводы, нажаль, не дастала патрэбнае колькасьці галасоў, на 200 галасоў было замала, і М. Манцывода выбары прэйграў. Аднак, ён поўны надзеі, што ў наступных выбарах, калі партыя выставіць ягоную кандыдатуру, ён выйдзе пераможцам. **С.**

# МАКСІМАВА СЯБРОЎКА

**(Урывак з аповесьці пра Максіма Багдановіча „Пад лебядзіным знакам" Ўладзімера Глыбіннага)**

**Ад Рэдакцыі:** 9 сьнежня 1981 г. спаўняецца 90 гадоў ад народжаньня Максіма Багдановіча. У Менску да гэтай даты адчыняецца музэй М. Багдановіча ў камяніцы пры вуліцы Максіма Горкага (былой Аляксандраўскай № 9) недалёка ад таго дому, дзе жыла сям'я Багдановічаў (№ 25). У Ракуцёўшчыне, дзе паэта жыў улетку 1911 г., беларускія пісьменьнікі насадзілі сад, якому далі імя Максіма. Там-жа пастаўлены мэмарыяльны камень з напісам, што там жыў паэта.

У сувязі з гэтым Багдановічавым юбілеем нашая газэта падае ўрывак з аповесьці пра М. Багдановіча беларускага пісьменьніка ў эміграцыі Уладзімера Глыбіннага. Цалкам аповесьць друкуецца ў часапісе „Беларускі Сьвет", пачынаючы ад № 9 за 1981 г. Выпісаць можна паводля адрысу:

Mr. Nicholas Prusky,
1086 Forest Hills Ave., SE.,
Grand Rapids, Mich. 49506 USA

Ліпень выдаўся не адно гарачым, але й гаманлівым у хвальварку Лычкоўскіх у Ракуцёўшчыне. Аднаго дня апаўдні на летаваньне зьявіліся аж дзьве новыя жаноцкія постаці. Прыехала Вінцэнтава цётка Ядвіся Русецкая, з дому Лычкоўская, жывая, рухавая і гаваркая жанчына, крыху за трыццаць — у самым прывабным для жанчыны веку. Зь Менску з маленькай дачушкай Янінай прыехала ў госьці Міля, сястра Антона й Івана, з дому Луцкевічу. Яны напоўнілі дом Лычкоўскіх вясёлай гаманой. Ад раньня да глыбокае начы ў хаце й наўкола дому чуліся жаночыя альты, перабіваныя гучным дзіцячым вісклівым галаскам. Чуліся яны абедзьве як гаспадыні дому, з правам сястры і дачкі Зосі Лычкоўскай, ці Луцкевічыхі па чалавеку, колішняй уладальніцы гэтага хвальварку. Яны ведалі ў Ракуцёўшчыне кажны куточак, у хаце — кажную шчыліну. Калі па сьнеданьні бліжэй запазналіся з паэтам, яны адразу запрапанавалі пагулянку разам на рэчку, каб паплаваць на чаўне.

— У пана Франука там добры на колькі асобаў човен. Дык па дарозе мы дамо знаць пра сябе, што прыйшлі на ягоным чаўне паплаваць. Ён ніколі не адмаўляе ў гэтай забаве, — сказала байчэйшая на язык Ядвіся.

— Вось добра будзе маёй Яніне пасядзець у мяне на руках на чаўне. Яна яшчэ гэтага ніколі не зазнала, — дадала Міля і тут-жа гукнула малую. Падбегла невялічкая русавая дзяўчынка, так на гады два з паловай, у прыгожай сукеначцы ружовага колеру. Бліснула сваймі блакітнымі вачанятамі на Максіма.

— Гэта наша Янінка-непаседа-круцёлка, — сказала ўсьміхаючыся Міля. — Падай, дзетка, ручку пану Максіму.

Дзяўчынка запынілася ў нерашучасьці каля маткі і быццам раздумвала, рабіць тое, што маці кажа, ці схаваць твар у матчыну спадніцу. Але Максім вывеў яе з тае нерашучасьці. Ён сам наблізіўся да малой і жартоўна сказаў:

— А я цябе бачыў ужо, як ты з цёцяй Ядвісяй і мамай прыехала ды несла на руках свайго мядзьведзіка. А цяпер ты зь ім разлучылася. Ты яго, відаць, на ложку пакінула. А ён возьме ды ўцячэ ў лес да сваіх родзічаў. А тут яму недалёка бегчы, густы лес пад бокам.

Янінка задумалася. Напачатку ў вачох блісьнуў як-бы нейкі спалох. Максім заўважыў яго і пасьпяшаўся супакоіць дзяўчынку.

— Ну, то нічога. Я табе дапамагу злавіць яго ды прымасьціць яго зноў на твой ложак.

Тым часам дзяўчынка адумалася і, як-бы наўзнарок, пралепятала:

— Гэта толькі цацка, каб гуляць.

— Дык ты разумніца, я бачу. Запраўды, цацка не ўцячэ, баяцца ня трэба. Дык давай з табой сябраваць. Я Максім, ты — Яня, вось і будзем сябрамі навек. Добра?

І ён працягнуў да яе сваю руку. Не бязь хістаньня, аднак, як праяву сваёй згоды, яна высунула ўперад сваю маленькую бялява-ружаватую ручку. Максім далікатна ўзяўся за яе і трохі, для замацаваньня ўмовы, патрос яе ў паветры. Дзяўчынка канчальна асьмялела перад кагадзе незнаёмым ёй дзядзькам Максімам ды пачала насіцца вакол, быццам тут для яе ўжо ня было незнаёмых.

Перад тым, як падацца на тое плаваньне на чаўнох, кажны яшчэ пасьпеў забегчы да сябе, каб быць апранутым больш адпаведна пагулянцы. Жанчыны выйшлі ў саламяных капялюшыках ды лёгкіх сьветлых сукенках, аднаго колеру й крою, як-бы падкрасьляючы тым падабенствам роднасьць пляменьніцы й цёткі. Адно на нагах былі пантофэлькі рознага крою й колеру. Здалёку, калі-б была патрэба вызначыць якую зь іх паводля фігуры, дык ня надта лёгка гэта было-б зрабіць — абедзьве сярэдняга росту, статныя постацямі, з круглавата-падоўжнымі тварамі ды асаблівай здольнасьцяй неяк ісьці нага ў нагу й лёгка несьці свой прыгожы стан. Цяпер Максім у такім разе пазнаў-бы Мілю паводля чорнага колеру ейных пантофэлькаў, а Ядвісю хіба пазнаў-бы паводля рудога колеру абутку. Аднак не давялося гэтага рабіць: трымаліся разам.

Калі ішлі ў бок Вушы, прыгожыя краявіды натхнялі на лірычную адкрытасьць. Пачалася гаворка пра паэтаў. Ядвіся й Міля, як згаварыўшыся, надта выхвалялі вершы расейскага паэты Надсана. Ім былі даспадобы любоў да народу, да братоў-пакутнікаў, заклік да вялікага чыну ў імя сьветлых ідэялаў. Верш „Друг мой, брат мой, усталый, страдающий брат", поўны веры, што настане пара, калі ня будзе на сьвеце „ні сьлёзаў, ні варажнечы". Тэма грамадзкага абавязку разам з тэмамі трагічнага гібеньня чалавека, матывы журбы й смутку, што ахварбоўваюць усю пэйзажную і любоўную лірыку Надсана, краталі струны сэрца гэтых жанок. Ім адпавядалі матывы скрушы ўсіх надзей, сумляваньня й зьбянтэжанасьці перад жыцьцём, ноты прымірэньня з супярэчнасьцямі яго. А галоўнае, даступнасьць і праставатасьць формы падкуплялі жаночыя пачуцьці. І калі Міля пачала голасна дэклямаваць верш Надсана, „Не вини меня, друг мой, я сын наших дней, сын раздумья, тревог и сомнений", Максім шчакаў заканчэньня, а тады выказаўся, што адно пакладзеныя на музыку Кюі, Рахманінавам, Балабанавам і Спэндыяравам такія рамансы, як „В тени задумчивого сада", „В роще зеленой, над тихой рекой" або „Грезы" („Мне снилось вечернее небо") ды некаторыя іншыя песьні і падабаюцца яму. Аднак, ён зусім адмоўна ставіцца да ўсяго Надсана.

— Гэта была хвароба часу заўсёды й пры кажнай нагодзе ныць і выказваць жалобу, жаліцца на зьнямогу, рашчараваньне, зьбянтэ-

## ТЫДЗЕНЬ СЛАВЯНСКАЕ СПАДЧЫНЫ

Сёлета ўжо чацьверты год як у Нью Ёрку адбываецца гадавы фэстываль славянскае спадчыны. Ладзіла яго Рада Славянскае Спадчыны ў Амэрыцы, ведамая раней як Тыдзень Славянскіх Культураў. Да гэтае арганізацыі належаць прадстаўнікі Баўгараў, Беларусаў, Македонцаў, Палякоў, Расейцаў, Славакаў, Славэнцаў, Сэрбаў, Украінцаў і Чэхаў. Супрацоўнічаюць з Радаю Славянскае Спадчыны (РСС) і Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Ад Беларусаў у Раду дырэктароў РСС увайшла Раіса Станкевіч з функцыяй сакратаркі выканальнага камітэту. На паседжаньнях арганізацыі бяруць удзел ад Беларусаў сп. сп. А. Шукелойць і В. Тумаш-малодшы.

Сёлета фэстываль трываў ад 9-га да 15-га лістапада. Былі таксама праведзеныя імпрэзы да і пасьля гэтых датаў. Прыкладам, 5-га лістапада дэлегацыя РСС зрабіла візыт Андру Штайну, прэзыдэнту Мангатэну, і атрымала праклямацыю „Тыдня Славянскае Спадчыны", які праходзіў галоўным чынам у Мангатэне, цэнтральным раёне вялікага Нью Ёрку. Сёмага лістапада была зладжаная мастацкая выстаўка зь лекцыяй польскага мастака А. Весялкоўскага ў памешканьні польскае Фундацыі імя Касьцюшкі; 28-га лістапада адбыўся даклад з мастацкай часткай ведамага славэнскага пісьменьніка М. Яворніка на тэму „Прыгажосьць і адменнасьць славэнскай мовы".



Прадстаўнікі славянскіх народаў у Гарадзкой Управе дастаюць праклямацыю. Ад Беларусаў: Раіса Станкевіч і Багдан Андрусышын

Тыдзень Славянскае Спадчыны пачаўся ў панядзелак 9-га лістапада ў будынку Гарадзкое Ўправы гораду (Сыты Гол) цырымоніяй уручэньня прадстаўніком РСС праклямацыі мэра гораду Нью Ёрку Эдварда Коча. Уручыў праклямацыю Кочаў асыстэнт Гэрбэрт Рыкман. Цырымонія мела мастацкую частку: выступіў славацкі жаноцкі ансамбль песьні „Лімбора" ды Багдан (Данчык) Андрусышын зь беларускімі песьнямі пад гітару. Увечары таго-ж дня адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня ў будынку Украінскага Інстытуту.



Раіса Станкевіч і кангрэсмэн Біл Грын на прыняцьці ў Украінскім Інстытуце

Сп. Ю. Валынэц, сябра Этнічнае Рады штату Нью Ёрк, прачытаў прывітаньні ад губэрнатара Нью Ёрку Г'ю Кэры ды ад прэзыдэнта ЗША Рэйгана. Прывітальную тэлеграму прыслаў таксама кангрэсмэн Джозэф Адаба, прыяцель паняволеных народаў. Сп. М. Сатырас, старшыня Фэдэрацыі рэспубліканскіх этнічных клюбаў штату Нью Ёрк, у сваім выступленьні падкрэсьліў уклад славянскіх групаў у перамогу Рэспубліканскае партыі ў мінулых прэзыдэнцкіх выбарах. Ён перадаў прывітаньне таксама ад старшыні Нацыянальнага камітэту Рэспубліканскае партыі.

Др. В. Кіпель прамаўляў ад імя губэрнатара штату Нью Джэрзі Бэрна. Кангрэсмэн зь Нью Ёрку Біл Грын у сваёй прамове падчыркнуў уклад славянскіх групаў ў шматкультурнасьць гораду ды ягоную эканамічную базу. Галоўным прамоўцам быў ведамы амэрыканскі навуковец славэнскага паходжаньня, лаўрэат Нобэлеўскае прэміі прафэсар Джон Нільсэн. Ён расказаў пра сябе, як дзеля кар'еры ён зьмяніў сваё прозьвішча ды наважана асыміляваўся. Цяпер, па гадох славы, на сёмым дзясятку гадоў жыцьця, ён вярнуўся да сваіх каранёў: пачаў вывучаць сваю мову й культуру ды наведаў Славэнію, што далучаная да Югаславіі, адчувае сябе шчасьлівым, што ня было запозна вярнуцца да свае народнае спадчыны.

Ад 10-га да 14-га лістапада трывала мастацкая выстаўка, на якой былі паказаныя абразы беларускіх мастакоў П. Мірановіча, І. Рагалевіч-Дутко, І. Шыманец-Сурвілы і Ст. Тамары. Адказным за мастацкую выстаўку Беларусаў быў др. Вітаўт Тумаш, сябра мастацкага камітэту РСС.

12-га лістапада ў памешканьні Украінскага Інстытуту адбыўся вечар славянскае паэзіі. Чыталіся вершы ў арыгіналах і ў ангельскім перакладзе. Беларускія вершы („Спадчына" Янкі Купалы й „Слуцкія ткальлі" М. Багдановіча) дэклямавалі сп-ня Вера Бартуль і сп. Багдан Андрусышын.

На выстаўку народнага мастацтва, якая трывала два дні (14-15-га ліст.) і на якой экспанаваліся вырабы васьмёх славянскіх народаў, беларускія экспанаты далі сп-ні З. і Р. Станкевіч, Ю. Андрусышына і сп. А. Шукелойць. У часе выстаўкі былі выступленьні на сцэне Расейцаў, Славакаў, Сэрбаў, Славэнцаў і Беларусаў. Данчык Андрусышын надзвычайна прыгожа выканаў колькі беларускіх песьняў. На вечарыны 15-га лістапада весела праводзілі час аматары танцу пад славацкую музыку. Буфэт прыцягваў ласуноў да традыцыйных славянскіх прысмакаў. Падзяка належыцца сп-ні Яніне Кахаmoўскай за надзвычайна ўдалыя макоўнікі, што гэтак хутка разыйшліся.

У часе Тыдня адбылася выстаўка кнігаў пад заг. „Сталіцы славянскіх народаў" у галоўным будынку Ньюёркаўскае Публічнае Бібліятэкі.

Абвестка праграмы Тыдня была выдрукаваная ў шмат якіх англамоўных і славянскіх газэтах Нью Ёрку. Рэпартажы пра Тыдзень перадалі ў краі Ўсходняе Эўропы радыястанцыі „Свабода" й „Вольная Эўропа".

Можна з прызнаньнем сказаць, што сёлета Тыдзень Славянскай Спадчыны прайшоў вельмі ўдала і што колькасьць зацікаўленых людзей, удзельнікаў і гледачоў, пашыраецца.

**Раіса Станкевіч**

## МАЛАДОЕ ПАКАЛЕНЬНЕ

Гэтым разам пазнаёмімся зь Юркам Драздоўскім, маім найбольш паважным і здольным вучнем. Для мяне ён так і застаўся Юркам — вучнем сыботняе школы ў Нью Ёрку, цікавым назіральнікам людзей і навакольнага сьвету.

Ужо тады, больш за дзясятак гадоў таму, калі бацькі прывозілі яго сыстэматычна ў школку з Джэрзі Сыты, Юрка вырозьніваўся сваёй басьціпласьцяй ды інтэлігенцыяй. Бацькі рупіліся пра ўсебаковую асьвету, уключаючы беларускую мову, ды веды пра бацькаў родны край. Маці Юркава — Славачка.

Бацька-ж ягоны, Павал Драздоўскі, родам спад Радашкавічаў — мястэчка, ведамага сваймі беларускімі дзеячамі, як Б. Тарашкевіч, І. Дварчанін, А. Уласаў ды іншыя. Ведаў гэных людзей Юркаў дзед, пісьменны беларускі патрыёт. Аднак сына свайго ён пакрыўдзіў, бо не дазволіў яму наведваць польскую школу, а ў беларускую ў Радашкавічы пасланць не мэў магчымасьці.

Пры нагодзе ціраз згадваў сваю крыўду Павал Драздоўскі, Юркаў бацька, моцна шкадаваў страчаную нагоду атрымаць асьвету. Затое пра асьвету свайго сына рупіўся шчыра, хоць матар'яльна ня быў забясьпечаны дастаткова. Але пакуль што падрастаў малы Юрка ў сыботняй беларускай школе разам зь іншымі хлопчыкамі й дзяўчаткамі.

Прыгадваецца мне такі выпадак. Аднойчы каб пазнаць бліжэй здольнасьці й зацікаўленьні вучняў, запрапанавала ім нешта нарысаваць, што ім найбольш падабаецца й цікавіць. Пераглядаючы рысункі — кветкі, дрэвы, абразкі з прыроды, зьвяры — моцна мяне ўзрушыў і зьдзівіў Юркаў рысунак: на лісьце паперы красавалася Пагоня, а побач бел-чырвона-белы сьцяг (размалёваныя каляровымі алавікамі). На маё пытаньне, чаму ён гэта нарысаваў, Юрка, крыху зьбянтэжана, адказаў: „Бо я гэта люблю". Ня раз зьдзіўляў мяне хлопчык і іншымі заўвагамі.



Драздоўскія: Павал і Сузана, сын Юрка з жонкай Кацяй (сынка Паўліка на відаць за тортамі)

Пасьля наведваў Юрка школы ў Джэрзі Сыты. У 1978 годзе скончыў каледж сьв. Пятра ў Джэрзі Сыты ды ў тым-жа годзе быў высьвечаны на дыякана ў царкве Казанскае Божае Маці ў Ньюўарку мітрапалітам Філярэтам (Расейцам).

Неяк у міжчасе, калі рос, зьявілася ў Юркі вялікая цяга да царквы й царкоўнае службы. Не прыпамінаю сабе, якім чынам ён зблізіўся із сьв. пам. Уладыкам Васілём, незаменным прыслужнікам у царкве якога стаўся на доўгія гады. Пунктуальна зьяўляўся ў саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, а пасьля не абмінаў і Гайленд Парку, прыслужваў пры багаслужбах падчас візытаў там Епіскапа Мікалая,

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

---

жанасьць, — скончыў Максім сваю думку пра Надсана. У сэньсе вершу Надсан не пайшоў далей за Някрасава й свайго настаўніка ў літаратуры Пляшчэева. Нездарма крытыкі Міхайлоўскі, Шалгуноў і Якубовіч уважалі Надсана паэтам тэндэнцыйным з грамадзянскімі матывамі. Але такія паэты не збагачаюць вялікую літаратуру. Ужо ў нашым часе паэты-сымбалістыя Валеры Брусаў і Аляксандар Блок робяць куды больш, каб павесьці далей ды ўзбагаціць пушкінскую традыцыю тварэньня вялікай, на падставе сусьветнай спадчыны, літаратуры, што ставіць і нас, Славянаў, у шэрагі творцаў сусьветных мастацкіх вартасьцяў агульна-людзкога значаньня. А Надсан у гэтым дачыненьні роўны нулю, — абагульніў свае разважаньні Максім.

— Вы занадта суворы крытык, аднак пасьля Вашага разносу паэзіі Надсана я ня буду менш любіць яе, — выказалася Міля.

— У шчырасьці й сумленнасьці на сяньня няма роўнага Надсану паэты, — сказала Ядвіся з глыбокім перакананьнем. Тады абедзьве жанчыны пачалі наперамену адна па аднэй чытаць вершы Надсана. Максім слухаў і шкадаваў, што яны яшчэ не ўзьняліся нагэтулькі высака, каб не абмяжоўвацца ўзроўнем Надсана. А калі пачалі падавацца цытаты зь вершаў пра каханьне, Максім згадаў, што паэзія Надсана, як чалавека-сухотніка, мае зашмат у сабе непрыхаванай эротыкі, якой і падказаныя шмат якія вершы. Ён не захацеў удавацца ў падрабязнасьці, каб не паставіць жанок у далікатную сытуацыю. Сытуацыі дапамагла маленькая Янінка. Тая ўвесь час бегла ўперадзе, зрывала абапал дарогі кветкі і тут-жа зараз кідала іх на дол. Але зморанaя аднастайнасьцяй гэтага занятку, раптам запынілася, дачакалася маці ды папрасілася на рукі.

— А наседзішся зараз, ужо вось блізка і той бераг з чаўном, — адказала Міля.

І запраўды, зараз-жа з-за зялёнага хмызьняка заблішчэлі воды хуткаплыннай Вушы. Неўзабаве усе падарожнікі выйшлі на квяцісты луг і па ледзь пратаптанай сьцежцы пайшлі ў бок вады.

У Янiначкі зноў аднекуль зьявіліся сілы бегчы ўздоўж лугавіны ды зьбіраць гэтым разам іншыя кветкі. Толькі яна іх ня кідала цяпер, а зьбірала ў левую руку і ўжо перад самаю вадою падбегла да Максіма ды працягнула да яго прыгожы букецік рознакалёрных красак.

— О, дык ты кемлівая паненка, кветкі падносіш свайму сябру! — выгукнуў Максім, узрушаны ўвагай малой да яго. І ён асьцярожна ўзяў дзяўчынку пад пашкі ды прыўзьняў над сваёй галавой.

— Расьці вялікая і разумная, каб далёка бачыць і добра ўсё разумець, — сказаў Максім пры гэтым ды шпарка пакруціўся, апісаўшы дзяўчынкаю ўверсе вялікае кола. Яна голасна сьмяялася ад узбуджаньня, голас яе будзіў палёвую цішу і надаваў жыцьцёвага імпэту тому дню на квяцістым беразе Вушы. Калі Максім апусьціў Яню да долу, яна адразу-ж папрасіла:

— Яшчэ хачу, яшчэ, яшчэ падымеце, дзядзя Максім, мяне ўгару.

І Максім яшчэ колькі разоў падымаў Яніну ды кружыўся зь ёю па зялёным лузе, пакуль Міля не паклікала іх у човен. Там маці хацела трымаць дачушку сама на руках, але тая ўпіралася, каб сядзець у Максіма.

— Дзядзя Максім ня можа цябе трымаць, яму трэба веславаць, — сказала Міля ды ўзяла Яню на рукі. Давялося дзяўчынцы ўтаймавацца. Напачатку яна сядзела ціхенька.

Але калі човен быў на сярэдзіне плыні і досыць шпарка рухаўся ўздоўж зьменьлівых краявідаў, малая ажывілася ды ўсё пыталася ў маці, што гэта і што тое, і чаму човен стаіць, а вада хутка бяжыць. Маці на ўсё давала хуткія адказы. Калі Ядвіся заўважыла, зь якім спрытам Максім гоніць човен і як умела працуе ён вёсламі, яна ня ўтрымалася пахваліць ягонае вясьлярскае ўмельства.

— Відаць, што маеце практыку веславаць. Гэта-ж нідзе ня збочылі, і човен ідзе як па струнцы. Дзе гэта пан гэтага навучыўся, дазвольце папытаць!

— На Волзе жыву, даводзілася неаднойчы веславаць у часе вылазак зь сябрамі, — адказаў Максім.

— Скажэце лепш — зь сяброўкамі, — дадала жартоўна Ядвіся.

— І такое было, улетку ў нас зьяжджаюцца студэнты й студэнткі з розных канцоў краю. Вось і даводзіцца часта баразьніць Волгу на чаўнох, міжволі напрактыкуешся. А Волга ціхім летнім вечарам прыгожая, сутонныя прамяні люструюць ейную паверхню ды робяць бясконцую прастору таямнічай. Добра тады недзе на чаўне прыпыніцца ды пасядзець удваёх зь сяброўкай, пад сінім полагам неба, заглядаючыся на зоркі ды цікуючы паўсюдную цішыню. Здаецца, чуваць, як стукоча сэрца ўва ўнісон з пульсам сусьвету, і ты, здаецца, знаходзішся ў самым асяродку яго.

— О, дык пан — рамантык, як пекна ўяўляеце рэчы вакол сябе! — азвалася Міля з свайго месца. Гаворка зноў перайшла на паэзію, І тут Максім пачаў гаварыць пра тое, што цяпер і ў Беларусаў ёсьць добрыя паэты, якія друкуюцца ў „Нашай Ніве" ў Вільні. Называў імёны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Зьмітрака Бядулі, назваў жаночыя прозьвішчы Канстанцыі Буйлы ды Цёткі. Жанчыны адно чулі пра некаторых зь іх, але нічога ня чыталі. „Нашу Ніву" адно бачылі ў Вацлава Лычкоўскага на стале. Ня было яшчэ часу, каб зазірнуць у зьмест яе. (...)

Агледзеліся, што на тым чаўне яны ўжо далёка адплылі ад Краснага, тое ўжо схавалася ад вачэй, і адно толькі найвышэйшым сваім касьцельным шпілем яшчэ зігацела на сонцы ў паветры. Наважыліся варочацца назад. Калі выходзілі на бераг, сонца ўжо хілілася на захад, і даўжэйшымі рабіліся цені на ўсход ад дрэваў.

Яня, якая ўжо добра паспала на руках маці, на беразе забегала вакол, нібыта радуючыся, што дапяла нарэшце да зямлі, на якой яна сябе лепш пачувала, як на тэй зьнялюбелай за даўгое падарожжа вадзе. Яна кінулася зноў зьбіраць краскі ды, пакуль дарослыя ўпраўляліся з чаўном, прывязваючы яго да мастка, яна такі назьбірала іх ладны букецік.

Калі пайшлі ў бок Ракуцёўшчыны, Яня ўвесь час забягала наперад, быццам паказвала дарогу старэйшым. А тады падбегла да Максіма ды, ўхапіўшыся за ягоную руку, ужо бадай-што да канца дарогі не адпушчала яе. Ёй цікава было слухаць ягоныя апавяданьні пра лясныя дзівы ды пра бабу-Ягу, што разам із сваймі памагатымі робіць адно кепскае добрым людзям, але гэных заўсёды выратоўвае зь бяды Іван-разявака. Яня цешылася, калі добрым людзям удавалася выратавацца з пастак, пастаўленых злой сілай. Іван-дурань рабіўся Іванам-царэвічам, надзвычайным гэроем. Сабраныя ёю кветкі яна і гэтым разам аддала Максіму ў знак асаблівай пашаны да яго.

(Заканчэньне будзе)

